*Міхась Казакоў*

# Млечны шлях

✲ ✲ ✲

*Выдавецтва „Беларусь“ Мінск 1969*

Бел 2
К 14

7-4-3
169-69

Міхась Казакоў нарадзіўся ў 1938 годзе ў Горацкім раёне Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута, працаваў дырэктарам школы. Цяпер жыве ў г. Сакі, працуе ў рэдакцыі раённай газеты.

Вершы М. Казакова друкаваліся ў часопісе «Маладосць» і ў газетах. У іх аўтар вядзе размову з чытачом аб нашым часе, дзеліцца сваімі задушэўнымі думкамі і марамі.

На грамадскіх асновах кнігу адрэдагаваў
Мікола Аўрамчык

* * *

Зайздрошчу прагным!
Прагным быць хачу
Да вершаў, да кахання, працы.
Вялікім шчасцем для сябе лічу
Такім
на ўсё жыццё застацца.

На справы прагнасць
хай не абміне—
Зрабіць патрэбна нам багата!
Хай кожны дзень,
які адмеран мне,
Для ўсіх нас будзе
вышынёю ўзятай!

* * *

З поўначы прыходзяць цягнікі,
Зацярушаныя снегам,
Коцяцца па ўсіх завулках
рэхам
Ціхія ахрыплыя гудкі.
І вагоны
здзіўлена глядзяць:
На стракатым
стомленым пероне
Кіпарысы
ў вопратцы зялёнай,
Як тугія ветразі,
стаяць.
Там,
за імі,
вецер гасіць дзень,
Спелым сонцам,
хваляю прапахлы,
Дрэмлюць горы
ў казачных папахах,
Лодкі мыюць днішчы
у вадзе...
Яркая, паўдзённая краса!
А гудкі
туды вярнуцца просяць,

* * *

Дзе рабінай
дагарае восень
У кашлатых
снежаньскіх лясах.
І таму спяшаюць цягнікі
Загрузіць вагоны
летам, смехам...
Ў сэрцы
аддаюцца рэхам
Ціхія самотныя гудкі.

## РОДНЫ КРАЙ

Неба
сінь такую
разліло,
Што здаецца:
кінеш камень толькі—
Зазвініць блакітнае,
як шкло,
Зоркамі
рассыплюцца асколкі.
У паветры трапяткі настой
Траў духмяных
і мядовых кветак,
Дываном зялёным за ракой
Распластаўся
сонечны палетак.
Па рацэ
плывуць уніз плыты,
Рэактыўны ў небе
чыстым,
веснім...
Родны кут,
любімы, залаты!
Светлыя,
як будучыня,
песні!

Як жыццё,
люблю цябе,
мой край,
За цябе
ў агонь, ваду пайду я,
Каб ты цвіў—
жыцця не пашкадую.
Здраджу слову—
смерцю пакарай!

## ВОЧЫ

Вочы—не толькі люстэрка
душы чалавека,
Вочы—
люстэрка нашага веку.
Паглядзіце:
у іх не месціцца,
свеціцца
Радасць.
Як у кроплі,
у іх адбіваецца
наша Зямля,
Якую бачыў
Гагарын з Цітовым здаля.
Паглядзіце:
з-пад іх павек
Пазірае дваццаты век.
Паглядзіце—
на іх яшчэ бачны
слёз гаротных сляды,
Слёз мінулай вайны,
непапраўнай бяды.
Паглядзіце —
яны, суровыя, кажуць:
«Не!»
Новай вайне.

## БАЦЬКУ

Ты прабач,
што за столькі гадоў
Я магілу тваю
не знайшоў,
Што ні разу табе не прынёс
Кветак,
мокрых ад сполаху рос,
Што ніколі
грудзьмі не прыпаў
Да магільных
абветраных траў.
Дзесьці там,
каля сініх Карпат,
Ты без вестак загінуў,
салдат.
І бязвоблачнай
ранняй вясной
Да заўчаснай магілы тваёй
У маўчанні ідуць юнакі
І кладуць каля зоркі
вянкі
З кветак,
мокрых ад сполаху рос,
Тых, што сын твой
табе не прынёс.

## У ДАРОЗЕ

Заснуў у Еўропе,<br>
прачнуўся—Азія.<br>
Сонца сядзіць<br>
у вагоне з хлопцамі<br>
І штосьці вясёлае<br>
ім расказвае<br>
Пад выбухі смеху<br>
моцныя.<br>
Сядзіць сярод іх,<br>
рукавы закасвае<br>
(Ляцяць хвіліны,<br>
як пад коламі шпалы),<br>
Усміхаецца ветла,<br>
на вокны паказвае:<br>
—Нічога,<br>
шляху наперадзе мала.<br>
Спявае з намі:<br>
«Праца у нас такая...»<br>
І ўжо сумуюць<br>
аб Кулундзе сябры.<br>
Як фінішную істужку,<br>
цягнік разрывае<br>
Чырвоную палоску зары.<br>
Сусед мой<br>
з няголенай барадою

Брыгадзіру дае параду,
Кіўнуўшы на сонца
макаўкаю сваёю:
—Запішы яго
ў нашу брыгаду!

## ВОСЕНЬСКАЕ

Уздоўж дарогі—
сланечнікі
ў чорных папахах.
Грузавік,
як цацачны,
між хваляў тугіх плыве.
Аселіцы чыстыя
антанаўкамі прапахлі:
Дыхнеш—
і закружыцца
у галаве.
Ля гумна
снапы
свае паясы скідаюць
І скачуць у малатарню
ўніз галавой,
Рассыпаюцца сонцам,
цяжка ў мяшкі спаўзаюць
І ўжо аб млынах сумуюць.
А за ракой
Загараецца полымем яркім
каліна,
На лугах стагі
вартавымі
стаяць...

Пахарашэла
зямля мая,
як жанчына,
Што вось-вось збіраецца
маткаю стаць.

## НА ТАКУ

Ручкі лапат,
як наждаком,
Мы далонямі шліфавалі.
Сыпаўся хлеб
праліўным дажджом—
Майкі да спіны прыліпалі.
Спатыкаліся фары машын
Аб залатыя горы,
І раўлі ў цёмна-сіняй цішы,
Як вясной ручаі,
маторы.
Паўнаводнай
хлебнай ракой
Плыла дарога
бяссонным стэпам.
І нават зоркі над галавой
Пахлі
хлебам.

# КРОКІ

Мы ідзём па завулках
гулкіх.
Кананадай крокі грымяць.
На падушках,
ад слёз і бяссонніцы
мулкіх,
Дзесьці маці
ў надзеі не спяць.
Сярод страшнай
пакутлівай ночы
Рыпне веснічкай
вецер тугі —

Сэрца радасна ўскрыкне:
«Сыночак!..»
І абмякне
ад горкай тугі.
Па знаёмай
роснай сцяжынцы
Вецер,
п'яны ад маю,
брыдзе.
Ну а той,
праз каго
не спіцца,

Не ідзе,
не ідзе,
не ідзе...
Крочым мы
па завулках весніх.
Як салдацкія боты
грымяць!
...Ля старых
адчыненых весніц
Пасівелыя маці
стаяць...
Кананадай
крокі грымяць.

# НА ВУЛІЦЫ КАСМАНАЎТАЎ

Тут, як на іншых вуліцах,
тапалі
Застылі,
бы ракеты перад стартам,
І будучыя касманаўты
ў школе
Схіліліся над азбукай за партай.
Ах, мілыя мае вы
першакласнікі!
Я разумею вас беспамылкова,
Чаму вы,
мастакі неперпакласныя,
Малюеце
Гагарына й Цітова...
Вы пазіраеце ў блакіт,
дзе дражніцца,
Як звон пчаліны,
рэактыўны гук...
І нават уздыхаюць
першакласніцы
У прадчуванні
непазбежнасці разлук.

* * *

Больш чым год я жыву ля мора,
А ніяк не прывыкну тут:
Прыдняпроўскія
                    вабяць прасторы,
Кліча родны знаёмы кут.
Там звініць і звініць
                    без стомы
Над жытнёвым полем жаўрук;
Там дзяўчаты
                    выходзяць з дому
На рамонкавы
                    сонечны луг;
Вельмі рана,
                    яшчэ напрадвесні,
Там пралескі
                    ў лясах цвітуць;
Там такія спяваюць песні,
Што да раніцы
                    не заснуць...

## КРЫМСКІЯ СОСНЫ

Сонца снуе
                    над маёй галавой
З нітак-праменняў кросны.
Сосны спавіты
                    халоднай смугой,
Ніцыя крымскія сосны...
Дзесь недалёка
                    злуецца гром,
Хмары трасе дажджавыя.
Б'ецца аб скалы
                    раз'юшаны шторм,
Вецер прыглушана вые...
Боллю тупою
                    занылі ў ствалах
Рыжых
          асколкі снарадаў.
Гром адазваўся
                    недзе ў гарах
Рэхам глухой кананады.
З шэптам трывожным,
                    стогнам цяжкім,
Сучча схіліўшы нізка,
Сосны закрылі
                    целам сваім
Чырвоныя абеліскі.

## У КІНАЗАЛЕ

На экране—вайна.
Сінявокі юнак,
Мой равеснік,
падобны на бацьку
твайго,
Лёг са звязкай гранат
пад раз'юшаны танк,
Каб з экрана у зал
не пусціць яго.

## ЧАМУ КРЫЧАЦЬ ЦЯГНІКІ

І чаму крычаць цягнікі,<br>
Цішыню палохаюць,<br>
І мігцяць,<br>
            завуць аганькі<br>
У дарогу далёкую?<br>
Мне тайга<br>
            за працу маю<br>
Падарыла алмазы;<br>
Я прыкурваў ад зорак<br>
                        цыгарку сваю,<br>
Калі быў верхалазам;<br>
Мне цалінных стэпаў<br>
                        вятры<br>
Валасы абпалілі;<br>
Я пазычыў у Ангары<br>
Неспакою і сілы...<br>
Дык чаму ж<br>
            крычаць цягнікі<br>
І куды завуць непаседу?<br>
Пэўна, ведаюць:<br>
                    я такі,<br>
Што ў любую дарогу<br>
                        паеду!

## ЛІНАТЫПІСТ

Як ён нагадваў
піяніста!..
Уважны позірк,
ўзмах рукі—
І замест гукаў урачыстых
Плылі
гарачыя радкі.
Яны,
адлітыя з металу,
Цяпло гублялі пакрысе
І на газетнай паласе
Няхітрай прозай
застывалі.
А я
хачу прымусіць слова
Вулканіць заўсягды цяплом,
А сэрца—
адпраўляць беспамылкова
На пераплаўку
словалом.

## МЛЕЧНЫ ШЛЯХ

Памятаю: цёплымі начамі
Пры нямых
прытушаных кастрах
Мы глядзелі прагнымі вачамі
На далёкі зорны
Млечны Шлях.
Цёхкала дуброва салаўямі,
Пахла
медуніцаю ў лугах,
І мігцеў загадкава над намі
На бальшак падобны
Млечны Шлях.
Недзе,
за нябачнымі лясамі,
Ён рабіўся блізкім і зямным:
Дакранаўся
белымі рукамі
Да зямлі.
Хацелася па ім
Хоць разок прайсціся з сябрукамі,
Паглядзець
з бяздоннай вышыні,
Як далёка плаваюць пад намі
Зоркамі
начлежныя агні.

Цёхкала дуброва салаўямі,
Пахла медуніцаю ў лугах...
Вабіў нас,
мігцеў здалёк над намі,
Неадступна клікаў
Млечны Шлях.

* * *

Вясна цвіла,
піла зямныя сокі
І промні сонца
кожны божы дзень,
А лета красавала,
налівала
Плады у садзе, полі,
на градзе.
А восень
гаспадыняю старанная
Палеткі залатыя абышла,
Сабрала
ураджай крамяны
І ўвесь зіме-гультайцы
аддала.

# БАЛАДА ПРА ЖУРАЎЛЯ

Колькі год халодную ваду
Ён цягаў з калодзежнага дна!
У нізіну зліць яе адну—
Акіянам
          зробіцца яна.
Кожны дзень з маленькага сяла
З бочкамі і вёдрамі сюды
Цэлая працэсія ішла,
Каб набраць
               крыштальнае вады.
А цяпер
          не да вады народ,
А вада спяшае да людзей:
Правялі ў сяле
                    водаправод.
Зразумела, так куды зручней!
Журавель сваё адпрацаваў...
Дзесьці каля сонца,
                         угары,
Клін птушыны
               ціха пракрычаў
Сумнае спрадвечнае:
                         «Кур-лы...»

* * *

Мора спала каля нашых ног,
Чайкі белакрылыя крычалі.
Адарваць я позірку не мог
Ад прыгожых суднаў на прычале.
Нізкія працяглыя гудкі
Пасажыраў клікалі ў дарогу,
Мне рукой махалі землякі,
Што плылі
да роднага парога.
Я праводжу дарагіх гасцей.
За бартом
ўскіпае снегам пена.
—Прыязджайце да мяне часцей!
Чуеце?—
крычу шчаслівым нема...
Сум у сэрцы
мне не патушыць
Па садах вішнёвых каля Горак:
Немагчыма мне без іх
пражыць,
Так, як чайкам
не пражыць без мора.

# ПЛОШЧА ЛЯ ВАЕНКАМАТА

Як па грознай трывозе
                                        на перадавой,
Узняліся таполі
                                над плошчаю,
Што лягла
                        нейтральнаю паласой
Між дзяцінствам і дарослацю.
Немаўлятам сняцца
                                        светлыя сны,
Ветры-дворнікі
                                ходзяць бульварамі,
Правады
                на слупах з сасны
Цэдзяць,
                цэдзяць
                                гукі гітарныя.
А яны
            стаяць і маўчаць,
Маладыя і круталобыя,
Непадобныя на салдат
І такія на іх
                                падобныя.
І каб мір
                зберагчы на вякі,

Развітаўшыся
з роднымі хатамі,
Выйшлі сёння
прызыўнікі
На свой першы парад
салдатамі.
Маткі
ў хусткі хаваюць
слязу,
А сыны
з бацькоўскай сур'ёзнасцю
Парушаюць
нейтральную паласу
Між дзяцінствам і дарослацю.

* * *

Я спяцоўку ўскінуў на плячо,
Я іду насустрач
працы новай.
Залатая завіруха пчол
Кружыцца
над грэчкаю мядовай.
І такі разносіць вецер
пах—
Хмельны,
трапяткі
і сакавіты,
Што здаецца:
на тваіх губах
Соты
мёдам водарным
наліты.
А пясок,
як першы снег,
рыпіць
Пад тваімі босымі нагамі,
І вясёлка ярка зіхаціць
Над густымі
мокрымі лугамі.
Хочацца
запрэгчы пад яе

Хуткіх,
як ракета,
тройку коней
І ляцець
па сонечнай траве,
Па любімых
незабыўных гонях.

* * *

Вось і зноў надыходзіць вечар,
Гаснуць промні ў бальнічным акне...
Мілы доктар,
ад песень не лечаць.
Не спрабуйце
лячыць мяне!
Дайце аркуш...
Зрабіў ■ мала,
Прад усімі—
у вечным даўгу...
Каб вярнуць яго,
не хапала
Сіл і часу.
Больш не магу
Заставацца
ў пакойчыку цесным.
Не спрабуйце мяне лячыць...
Калі я
захлынуся ад песні,
Дык яна застанецца жыць!

* * *

Пласкадонка дрэмле у аеры,
Пахнуць летам свежыя стагі,
І бліжэй здаюцца берагі
Той рачулкі,
                    што нырцом прамераў.

Як калісь,
                    спяшаю да абрыва
І гляджу на Проню з-пад рукі:
Сёння там другія хлапчукі
Сноўдаюць па хвалях
                              белагрывых.

Між кустоў лазы,
                              густых, цяністых,
Вопратку скідаю на хаду,
Ціха апускаюся ў ваду,
Быццам у далёкае дзяцінства.

# КРЫМЧАНКА

Юная і гордая крымчанка.
Чорная да пояса каса...
Аганькі далёкага паўстанка.
Як каралі,
буйная раса...
Тыя пацеркі
ты ўспомніш,
мусіць,
Прыгадаеш хоць на нейкі час
Цёплы вечар,
хлопца з Беларусі
І яго узрушаны расказ
Аб далёкім краі
магілёўскім,
Дзе з самотным крыкам
жураўлі
Пралятаюць
над мастом дняпроўскім
Да паўднёвай
сонечнай зямлі.
Там у іх—
часовая прапіска.
Напрадвесні жураўлі,
ізноў
Над табою праляцеўшы нізка,

Возьмуць курс
на родны Магілёў.
Можа,
іх праводзячы ў дарогу,
Будзеш
углядацца ў небасхіл
І прасіць у іх
зусім нямнога—
Толькі пару
жураўліных крыл.

* * *

Забалоцце, Забалоцце
На развіліне дарог...
Ліпы ў мокрай пазалоце
Сеюць лісце на мурог.
Цішыню тут парушае
Перазвон вясельных дуг,
Тут гармонік запрашае
Усіх:
«На круг!
На круг!
На круг!»
І дзяўчаты падпяваюць,
Выплываюць дружна ў круг,
Па масніцах рассыпаюць
Дробны спорны перастук.
І ніяк не адарвацца
Ад хусцінак на плячах,
Ад смяшынак, што іскрацца
У гарэзлівых вачах.
І любуецца сяло:
Заглядзенне—
не дзяўчаты!
Да любой
пайшоў бы ў сваты,
Калі б жонкі не было!

* * *

Нас чацвёра ў пакоі,
дзе два акны,
Чатыры крэслы
і кніжак многа,
А стол—
адзін
і думкі адны,
Мары—адны
і адна дарога.
Сварка
не пераступае
наш парог,
Хоць спрачаемся
вельмі часта.
Усё,
што ёсць у каго,—
на чатырох,
На чатыры
роўныя
часткі.
Перад стыпендыяй
усе ўчатырох
Баржы з пяском
на прыстані
разгружаем.

Пасля не адчуваем
ні рук,
ні ног
І першую лекцыю
прапускаем.
А вечарам
з дзяўчатамі ідзём у кіно.
Бярэм білеты
капеек па сорак.
Сяброўкам купляем
па эскімо,
А сабе папярос—
«Беламору».
Да раніцы іх
не хопіць для нас:
Будзем не спаць,
спрачацца,
бо веру,
Што ўсіх хвалюе
паведамленне ТАСС
Аб запуску ракеты
да Венеры...
Нас чацвёра ў пакоі,
дзе два акны,
Чатыры крэслы
і кніжак многа,
А стол—адзін
і думкі адны,
Мары—адны
і адна дарога!

* * *

Памяць часам
варушыць нялёгка:
Што было,
не ўсё з яе сплыло...
Першае каханне—
боль салодкі!—
Прытупіць нічога не змагло.
І яго не выселіць мне
з сэрца,
З памяці
не выкрасліць нічым,
Хоць мне добра
з іншаю жывецца,
Ёй—не горш, я ведаю,
з другім.
У яе—маленькая дзяўчынка,
Мой гарэза
ў садзік ходзіць сам...
Часта на аўтобусным прыпынку
Сустракацца выпадае нам.
Боль у сэрцы
зашчыміць салодка—
Зняць яго нічога не змагло...

Памяць часам
варушыць нялёгка:
Што было,
не ўсё з яе сплыло!

## ЧЭРВЕНЬ

Рассыпаў кветкі на палянах,
Чаромхай хмельнаю прапах,
Брыдзе без сцежак
закаханым
З сухой травінкай на губах.
Ў яго вачах
густое неба
Плыве блакітнаю смугой.
Яму сустрэцца пільна трэба
Са светлай мараю—
вясной.
Усё жыццё па свеце ходзіць,
Шукае чыстыя сляды,
Але, спазніўшыся,
знаходзіць
Яе адцвіўшыя сады.
І ўжо для іншых
закаханых
З усмешкай горкай на губах
Рассыпаў кветкі па палянах,
Чаромхай хмельнаю прапах

# ЗМЕСТ

**Казакоў М.**

Млечны шлях. Вершы. Мінск, «Беларусь», 1969, 44 с. 2000 экз. 11 к.

У сваіх вершах малады паэт славіць адвечную прыгажосць роднай беларускай зямлі, выказвае любоў да яе адважных і працалюбівых людзей.

$\frac{7\text{-}4\text{-}3}{169\text{-}69}$ Бел 2

К 14

На белорусском языке

*Михаил Аврамович Казаков*

**Млечный путь**

Издательство «Беларусь». Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактар Хв. Жычка. Мастак В. Жыжэнка. Мастацкі рэдактар М. Шырокаў. Тэхнічны рэдактар І. Шэршульскі. Карэктар Л. Баўдзей.

АТ 03146. Здадзена ў набор 15/IV 1969 г. Падп. да друку 21/V 1969 г. Тыраж 2000 экз. Фармат 86x108¹/₆₄. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 1,16. Уч.-выд. арк. 1,11. Зак. 809. Цана 11 кап.

Друкарня «Чырвоны друкар». Мінск, зав. Калініна, 10.